29 ЧЭРВЕНЯ 1999г. АЎТОРАК

# НАВІНЫ

№71 (602) КОШТ СВАБОДНЫ



## ПРИДАНОЕ ВИЦЕ-ПРЕЗИДЕНТА

стар.3

# Барыс Ельцын абірае югаслаўскую мадэль

## Расійскія палітолагі сцвярджаюць, што прэзідэнт РФ можа, падобна Мілошавічу, стаць на чале саюзнай дзяржавы

Мікіта ПАЎЛАЎ

**Беларуская карта ў палітычных расійскіх гульнях даўно перакваралася ў прыхаванага ў рукаве джокера. Як толькі на абшарах Федэрацыі пачынаецца крызіс, хто-небудзь з вядучых ігракоў не-не ды і выцягне козыр. Аднак робіцца гэта так часта, што расклад практычна не мяняецца.**

Яшчэ ў красавіку ў Крамлі і чуць не хацелі пра пасаду прэзідэнта Саюза Расіі і Беларусі, нават усур'ёз не ўспрымалі ні прапанову Аляксандра Лукашэнкі даверыць гэты важны пост Барысу Мікалаевічу, ні сціплыя ягоныя памкненні заняць самому гэтае крэсла. А ў канцы чэрвеня расійскія палітолагі ўголас абмяркоўваюць, ці стане Ельцын разыгрываць «варыянт Мілошавіча», каб захаваць уладу пасля 2000 года. Прэзідэнт расійскага фонду «Палітыка» Вячаслаў Ніканаў запэўнівае, што Расія збіраецца зрабіць некалькі сур'ёзных крокаў насустрач накіраванай на аб'яднанне Беларусі, і гэта можа стаць нагодай дзеля працягу прэзідэнцкіх паўнамоцтваў Барыса Ельцына. Ён нагадаў, што некалькі гадоў таму, калі скончыўся тэрмін паўнамоцтваў Мілошавіча як прэзідэнта Сербіі, той стаў прэзідэнтам Саюзнай Югаславіі.

Як заўважыў В.Ніканаў у інтэрв'ю «Інтэрфаксу», у гэтым выпадку нельга будзе выключаць адмены не толькі прэзідэнцкіх, але і парламенцкіх выбараў. Палітолаг лічыць, што падобны сцэнарый выглядае больш верагодным у параўнанні з такімі сродкамі адмены выбараў, як вынас цела Леніна з маўзалея, забарона кампартыі ці адстаўка ўрада Расіі.

Дырэктар Інстытута палітычных даследаванняў РФ Сяргей Маркаў лічыць, што «варыянт Мілошавіча» — вельмі прывабная мадэль для расійскага прэзідэнта, бо захоўвае ў сабе надзвычайную неакрэсленасць прававога·поля, якую вельмі любіць Барыс Ельцын. Гэты палітолаг лічыць, што калі Ельцын стане на чале саюзнай дзяржавы, прэзідэнцкія выбары ў Расіі не адменяць, а проста перанясуць з расійскага на федэральны ўзровень многія ўладавыя паўнамоцтвы, у тым ліку кантроль над узброенымі сіламі і Цэнтрабанкам. Пры гэтым С.Маркаў выказаў меркаванне, што, хутчэй за ўсё, Ельцыну выдзеляць своеасаблівую сінекуру, як выдзелілі ў свой час Пінаchэту, які, калі перастаў быць прэзідэнтам Чылі, застаўся галоўнакамандуючым, але ў сапраўднасці камандавалі без яго.

Аднак Лукашэнка ў інтэрв'ю расійскай «Трибуне» недвухсэнсоўна даў зразумець, што і ён гатовы балатавацца на пост главы саюзнай дзяржавы. Дарэчы, менавіта пасля гэтай заявы беларускага прэзідэнта ў Мінск прыбыў першы віцэ-прэм'ер расійскага ўрада выбіваць пазыкі. Мікалай Аксёненка, вядомы ў Расіі жорсткі праціўнік бартэрных пагадненняў, наўрад ці задаволіцца абяцаннямі разлічыцца за пастаўкі нафты прадуктамі.

У расійскіх палітыкаў сёння ёсць рэальныя рычагі ціску на Лукашэнку — у рэспубліцы чарговы бензінавы крызіс, наперадзе бітва за ўраджай, запазычанні за энерганосьбіты растуць з зайздроснай стабільнасцю, а тут яшчэ 20 ліпеня на календары выдзеленае чорным колерам. Невыпадкова ходзяць чуткі, што новыя расійска-беларускія дамоўленасці будуць падпісаныя менавіта ў гэты дзень — такім чынам, беларускі прэзідэнт як бы атрымлівае мандат даверу ад расійскай палітычнай эліты.




Быццам бы з Беларуссю праблемаў не прадбачыцца, і можна здаваць карты. Але ўся загвоздка ў тым, што ігракі не могуць вызначыцца, па якіх правілах гуляць. Магчыма, варыянт развіцця падзеяў па югаслаўскай мадэлі прыймальны для Крамля і сям'і, што ў ім абаснавалася. Аднак ён становіцца практычна невыканальным, калі пост саюзнага прэзідэнта будзе выбарны. Цяперашнім часам дзейнасць Барыса Ельцына на пасту главы Расіі ўхваляюць толькі 7% расіянаў. Наўрад ці гэтая лічба будзе большай у Беларусі. Да таго ж, у Маскве, як і ў Мінску, хочуць згуляць, не праводзячы пры гэтым канстытуцыйных рэформаў. І калі беларускае тэлебачанне цалкам знаходзіцца ў кішэні Лукашэнкі, то з мноства расійскіх СМІ толькі гультай не піша пра неабходнасць адправіць на заслужаны адпачынак Ельцына з сям'ёю.

Як будуць развівацца падзеі далей, будзе зразумела ўжо ў бліжэйшы час: у чацвер у Мінску парламентарыі дзвюх дзяржаваў абмяркуюць праект Саюзнага дагавора. Зразумела адно: нават калі і на гэты раз будзе падпісаная чарговая дэкларацыя, беларускага джокера ніхто не збіраецца вымаць з расійскай калоды. ■

## Крытычны стан — не перашкода

Ягор ІВАНОЎ

Банкаўская сістэма краіны ніколі яшчэ не знаходзілася ў такім крытычным стане — аб гэтым заявіў міністр фінансаў Беларусі Мікалай Корбут, выступаючы напрыканцы мінулага тыдня перад дэпутатамі Нацыянальнага сходу рэспублікі.

Паводле інфармацыі міністра, па выніках пяці месяцаў 1999 года даходная частка рэспубліканскага бюджэту выкананая на 87 працэнтаў ад плана, у той час як расходная частка прафінансаваная ўсяго на 79 працэнтаў. Але, напалохаўшыся сваёй смеласці, М.Корбут тут жа запэўніў прысутных, што да канца паўгоддзя план па даходах будзе не толькі выкананы, але і перавыкананы на 15 трыльёнаў рублёў.

Міністр паведаміў, што цяпер урад мае вялікія цяжкасці з пакрыццём бюджэтнага дэфіцыту. Паводле яго словаў, у першым паўгоддзі 1999 года дэфіцыт бюджэту планаваўся ў памеры 15 трыльёнаў рублёў, з якіх 12 трыльёнаў прадугледжвалася пагасіць за кошт выпуску і размяшчэння дзяржаўных каштоўных папер. Аднак да гэтага часу бюджэт не толькі не атрымаў гэтых грошай, але яшчэ і страціў 2 трыльёны рублёў. Прычыну гэтай сітуацыі М.Корбут бачыць у крытычным стане банкаўскай сістэмы краіны: зніжэнні ліквіднасці банкаў, адсутнасці ў іх фінансавых рэсурсаў. У выніку, паводле ягонага сцвярджэння, банкі проста не ў стане ўдзельнічаць у фінансаванні дзяржаўных праграмаў і купляць ДКА. ■

## БНФ быў супраць прэзідэнцтва

Аляксей ШЫДЛОЎСКІ

У пятнічным нумары НАВІНАЎ было апублікаванае інтэрв'ю з былым партыйным босам, кіраўніком маскоўскага прадпрыемства «Рубін» Анатолем Лашкевічам. У адказ на адно з пытанняў з ягоных вуснаў прагучалі наступныя словы: «У Вярхоўным Савеце БНФ галасаваў за ўвядзенне паста прэзідэнта». Насамрэч, калі крыху пакапацца ў памяці, можна ўспомніць, як дэпутаты ад Беларускага Народнага Фронту змагаліся супраць увядзення прэзідэнцтва ў Беларусі. Дэпутаты ад БНФ тройчы прымалі мемарандум аб недапушчэнні ўвядзення прэзідэнцкага паста. Аднойчы іхняя фракцыя ў знак пратэсту нават пакінула залу паседжанняў.

Пракаментаваць выказванні спадара Лашкевіча НАВІНЫ папрасілі тагачаснага дэпутата Вярхоўнага Савета ад БНФ, выконваючага абавязкі старшыні БНФ **Лявона БАРШЧЭЎСКАГА**:

— Тут відавочна, што спадар Лашкевіч усё зрабіў з дакладнасцю да наадварот. З фракцыі БНФ за ўвядзенне паста прэзідэнта галасаваў толькі спадар Новік, ды і то ён на той час з фракцыі ўжо выйшаў. Змаганне супраць паста прэзідэнта вялося з 1991 года, калі ўпершыню спрабавалі прапіхнуць гэтую ідэю людзі Кебіча, якога і меркавалася зрабіць прэзідэнтам. Так што спадар Лашкевіч, напэўна, за сесіямі не сачыў і дакладнай сітуацыяй не валодае. ■

### ГАРАЧАЯ ЛІНІЯ

#### Трагедыя на аўтадроме

У Латвіі сем чалавек загінула ў нядзелю падчас правядзення спаборніцтваў па аўтамабільных гонках. Адразу некалькі аўтамашынаў страцілі кіраванне і, з'ехаўшы з трасы, на высокай хуткасці ўрэзаліся ў групу гледачоў. У выніку сем чалавек загінула і дваццаць атрымалі цяжкія цялесныя пашкоджанні.

#### Літу — шэсць гадоў

У пятніцу літоўская валюта адсвяткавала свой "дзень нараджэння" - роўна шэсць гадоў літ быў уведзены ў абарот і амаль адразу быў «прывязаны» да курсу долара. З таго часу і дагэтуль курс літа застаецца нязменным - 4 на долар. З нагоды свята прэзідэнт Літвы Валдас Адамкус запэўніў сугрмадзянаў, што курс літа застанецца стабільным, як і раней, і таму падставаў для хвалявання проста няма.

*Расціслаў ПЕРМЯКОЎ*

#### Украіна з «мафіяй» аб'яднацца не спяшаецца

Пытанне аб аб'яднанні з Расіяй і Беларуссю будзе разглядацца Украінай, аднак не цяпер. Як паведамляе агенцтва УНІАН, аб гэтым заявіў журналістам лідэр Сацыялістычнай партыі Украіны (СПУ), прэтэндэнт на пасаду прэзідэнта краіны Аляксандр Мароз. Паводле ягоных словаў, сёння «аб'ядноўвацца — значыць аб'ядняць нашы мафіі, якія і так аб'яднаныя».

*Аддзел інфармацыі*

наша свабода

### НАДВОР'Е




**30 чэрвеня — 1 ліпеня** па рэспубліцы чакаецца пераменная воблачнасць, па асобных раёнах кароткачасовыя дажджы, навальніцы. Па **Брэсцкай** і 1 ліпеня па **Гродзенскай** абласцях пераважна без ападкаў. Вецер няўстойлівы, 3–8 м/с, пры навальніцах парывы да 12–14 м/с. Тэмпература паветра ўначы +12–+17.

**Курс наяўнага долара на «чорным рынку»**

**435 000**

АЎТОРАК



З КАСТУСЁМ ТАРАСАВЫМ

## Міратворства пачалося

Прэзідэнт Ельцын падпісаў рашэнне Савета Федэрацыі аб адпраўцы расійскага міратворчага кантынгенту ў Косава. Першыя ваенныя транспарты ўжо перанеслі на аэрадром каля Прыштыны неабходнае абсталяванне і першую групу дэсантнікаў. Найбольш гэта ўзрадавала тую расійскую роту, якая заняла ашчаджаны натаўцамі аэрадром напярэдадні ўступлення ў Косава саюзных войскаў. Бяздзейнае сядзенне гэтай роты на аэрадроме, як на сене, засведчыла, што бліц-пераход расійская рота здзейсніла па загадзе генералаў не самага высокага рангу, ва ўсялякім разе, не па прамым загадзе галоўнакамандуючага Узброенымі сіламі Расіі. Нехта выпрашыў паказаць натаўцам дулю, і расійскім адказным чыноўнікам гэта спадабалася. Рызыка, кажуць, высакародная справа.

Зараз пераход роты міратворцаў з Босніі на аэрадром падаецца прыхільнікамі рускай прысутнасці ў Косава як бясспрыкладны па напружанасці волі і хуткасці руху подзвіг. Аднак аўтапрабег праз тэрыторыі, занятыя сербскімі войскамі, уздоўж бронетанкавых калонаў сербаў, без адзінай сутычкі і зачэпак, пад апладысменты і крыкі «Віват!», сведчыць выключна пра папярэднюю дамоўленасць. Пэўна, расійскія генералы ўзялі на сябе нейкія абавязацельствы перад «братамі па веры» адносна стаўлення да касавараў («небратоў»). Тыя інфармацыйныя карацелькі на гэтую тэматыку, што трапляюць у сродкі масавай інфармацыі, і асабліва на тэлеэкран, дэманструюць настрой расійскіх міратворцаў стаць найперш за сербаў, а ўжо потым за аб'ектыўнасць. У расійскіх СМІ адсутнічае інфармацыя пра сербскія зверствы адносна косаўскіх албанцаў, але фразы тыпу «агрэсія NATO супраць суверэннай Югаславіі», «тэрор АВК супраць мірных сербаў» набылі амаль сакраментальны характар.

Некаторыя каментатары трактуюць удзел Расіі ў міратворчай акцыі ў Косава як першую перамогу расійскай арміі пасля няўдалай вайны ў Чачні. Расія дэманструе вяртанне на ролю звышдзяржавы, без якой нічога на свеце не можа адбывацца. Тое, што немагчыма зрабіць з дапамогай слабой эканомікі, па старадаўняй завядзёнцы робіцца з дапамогай вайсковага кантынгенту.

Наўрад ці геапалітычны клопат Расіі адпавядае спачуванню канкрэтным людзям, якія пакутвалі і пакутуюць праз фашыстоўскую ідэалогію Мілошавіча. Бо расійская геапалітыка дамінуе нават над цяжкасцямі ўласнага эканамічнага жыцця. Бярэцца вялікі крэдыт на Захадзе, з якога будуць аплачвацца дэсантнікі-міратворцы, а на Камчатцы грамадзянам Расіі пагражае гуманітарная катастрофа. Саме перацярпяць – усё ж не вайна. Маскоўскія палітыкі плануюць атрымаць заказы на адбудову сербскіх мастоў і заводаў. Грошы на гэтыя работы, на іх думку, павінны даць краіны NATO. Так што можна будзе і зарабіць. Усё, як у рускай прыказцы: «Кому война – кому мать родна».

# «Мінск – не месца для парламенцкіх сходаў»

## Зянон Пазьняк спрабуе выхоўваць расійскіх палітыкаў

Расціслаў ПЕРМЯКОЎ

**Чым менш часу застаецца да 20 ліпеня – даты заканчэння прэзідэнцкіх паўнамоцтваў А.Лукашэнкі, – тым большая мітусня ідзе вакол падпісання саюзнай дамовы і стварэння адзінай саюзнай дзяржавы з Расіяй.**

1-2 ліпеня ў Мінску адбудзецца парламенцкі сход дзвюх дзяржаваў, на якім будзе разглядацца праект саюзнай дамовы. На самой справе існуюць два варыянты гэтай дамовы – расійскі і беларускі, якія пакуль яшчэ кепска стыкуюцца паміж сабою. «Замазваннем шчылінаў» паміж пазіцыямі бакоў займаўся напрыканцы мінулага тыдня ў Мінску першы віцэ-прэм'ер Расіі Мікалай Аксёненка.

У першай палове ліпеня пройдзе паседжанне Выканкама Саюза Беларусі і Расіі, таксама прысвечанае аб'яднанню Беларусі і Расіі. Па выніках усіх гэтых саюзных «тусовак» прэзідэнты дзвюх краінаў прымуць канчатковае рашэнне аб аб'яднанні.

Тым часам дэмакратычныя сілы Беларусі актыўна выступаюць супраць стварэння канфедэрацыі з Расіяй. Не застаўся ў цені і лідэр БНФ Зянон Пазьняк. На гэты раз ён звярнуўся да расійскіх палітыкаў з заклікам «спыніць свае інтэграцыйныя планы». Ён зважае, што імкненне расійскага і беларускага кіраўніцтва да 20 ліпеня хуценька аб'яднацца з'яўляецца «дэманстрацыяй варожых адносінаў да беларускага народа, да дзяржаўнага суверэнітэту Беларусі і да беларускага дэмакратычнага вызваленчага руху». Пазьняк нагадаў таксама, што пасля 20 ліпеня Лукашэнка ператворыцца ў «самазванца і ўзурпатара ўлады», і таму не варта ствараць спрыяльныя ўмовы для яго ных планаў аб'яднання. ■

ГРАМАДСТВА

# Світанак новага жыцця

Аляксей ШЫДЛОЎСКІ

**Мінулая субота прайшла на Беларусі пад знакам выпускных школьных баляў, якія прагрымелі для больш чым 80 тысяч выпускнікоў.**



Фота Ул.ШЛАПАКА

Пахвальны ліст за 11 гадоў вучобы

Чарговы, восьмы, выпуск праvеў ліцэй імя Я.Коласа. 53 ліцэісты і ліцэісткі атрымалі атэстаты аб сярэдняй адукацыі і памятныя падарункі ад Беларускага Хельсінкскага камітэта, які прадстаўляла Таццяна Процька. Сярод падарункаў «коласаўцам», як цяпер нярэдка клічуць ліцэістаў, былі і кнігі Васіля Быкава з аўтографам аўтара.

У слове, якое сказаў ліцэістам адзін з выкладчыкаў Лявон Баршчэўскі, выказвалася спадзяванне, што дзякуючы ліцэю юнакі стануць не пасынкамі сваёй краіны, а паўнапраўнымі сынамі яе.

Бацькі ліцэістаў паклапаціліся аб тым, куды пойдуць іхнія дзеці ўвечары, каб усім разам весела правесці час у кампаніі і пасля пайсці сустракаць світанак, першы світанак самастойнага жыцця. Ліцэісты разам з бацькамі ноч перад світанкам правялі ў арэндаваным рэстаране «Папараць-кветка».

Сказаць, што гэта правільны крок – пад наглядам дарослых частавацца шампанскім, – не скажаць нічога. У сярэдняй школе №27, напрыклад, адміністрацыя ўжо ў 23 гадзіны прадаставіла выпускнікоў самім сабе. Хтосьці паехаў ночу «на прыроду» з добрым запасам спіртнога, а хтосьці напіваўся проста ў пад'ездзе суседняга дома. Наўрад ці звычайная падлеткавая п'янка стане ў душы гэтых выпускнікоў нечым вялікім, святым. І калі ўжо стане ў рэшце рэшт зразумела тым, ад каго гэта залежыць, што лепш легальны, але падкантрольны бяседны стол са спіртным, чым афіцыйна забароненая сумбурная п'янка...

А пятай гадзіне раніцы праспект Францыска Скарыны напоўніўся шумнымі кампаніямі маладых людзей, якія ішлі на ўсход, насустрач свайму першаму самастойнаму світанку. 80 тысяч выпускнікоў у гэтую ноч чакалі сонца, і падалося нават, што з-за гэтага світанне надышло крыху хутчэй, чым трэба. ■

АРМІЯ

# Хлопцы пайшлі ў войска

Алесь ПАЎЛОВІЧ

З сённяшняга дня пачалася адпраўка ў войска чарговых прызыўнікоў. Паводле дадзеных міністэрства абароны, вайсковую форму апрануць 18 тысяч юнакоў. Гэта крыху менш палавіны тых, каму надышоў час служыць. З 46 тысяч юнакоў, што былі абследаваныя дактарамі, 21% не прайшлі медыцынскі «экзамен» па стане здароўя, яшчэ 6,2% атрымалі адтэрміноўку – ім да восені трэба падлячыцца. 6,5 тысяч патэнцыйных прызыўнікоў будуць праходзіць дадатковае медыцынскае абследаванне і таму таксама атрымалі адтэрміноўку. У параўнанні з агульнай колькасцю «не вельмі здаровых» прызыўнікоў, тых, хто мае адтэрміноўку з прычыны вучобы, не так і шмат – прыкладна 20 працэнтаў.

Вось яшчэ адна лічба, якая характарызуе вясенне-летні прызыў-99. Недзе 1,4 тысячы хлопцаў не з'явіліся ў прызыўныя камісіі, што крыху больш, чым у мінулым годзе. Каментуючы гэты факт, спецыялісты не кажуць пра падзенне прэстыжу вайсковай службы, але з трывожнай тэндэнцыяй пагаджаюцца. Сапраўды, сярод пэўнай часткі моладзі, асабліва сталічнай, як і ў пачатку 90-ых гадоў, зноў узмацнілася жаданне «адкасіць» ад службы. З-за гэтага ўзрастае недакамплект у войску, з якім упарта змагаюцца нашыя камандзіры. Падчас мінулай зімовай прызыўной кампаніі ён складаў ужо 18 працэнтаў. Што гэтаму супрацьпаставіць?

Спецыялісты скардзяцца на шэраг праблемаў, якія за пяць мінулых гадоў не толькі не вырашыліся, а нават абвастрыліся. Закон аб альтэрнатыўнай службе так і не быў прыняты. Фінансаванне войска не паявілічылася. Да прафесійнай арміі мы так і не перайшлі, а жадаючых добраахвотна «цягнуць лямку ні за што» ўсё менш. ■

ЦЫТАТА НУМАРА

**Специфика нашего кризиса в том, что реальный сектор экономики, несмотря ни на что, работает и набирает обороты.**

*Василий ДОЛГОЛЕВ*

*Из выступления на встрече членов правительства и Национального собрания, 25 июня 1999 года*

## Парада не будзе

Дзмітрый УЛАСАЎ

У сувязі з нядаўняй трагедыяй каля станцыі метро «Няміга» запланаваныя ў Мінску святочныя мерапрыемствы ў гонар Дня незалежнасці і 55-годдзя вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў будуць зведзеныя да мінімуму. Ваенны парад і забаўляльныя мерапрыемствы, якія планаваліся раней на 3 ліпеня, праводзіцца не будуць.

2 ліпеня пройдуць цырымоніі ўскладання вянкоў да абеліска Перамогі з удзелам А.Лукашэнкі і прадстаўнікоў Парламенцкага сходу Саюза Беларусі і Расіі. Увечары таго ж дня ў Нацыянальным акадэмічным Вялікім тэатры оперы і балета адбудзецца ўрачысты сход і канцэрт майстроў мастацтваў.

Святкаванне Дня горада, запланаванае на 4 ліпеня, абмяжуецца ўскладаннем кветак да стэлы «Мінск – горад-герой» кіраўніцтвам горада і бясплатнай дэманстрацыяй мастацкіх фільмаў у 18-ці сталічных кінатэатрах. ■

## Змаганне за жыццё Саванюка

Расціслаў ПЕРМЯКОЎ

У Брытаніі суддзі спрачаюцца наконт таго, колькі гадоў ваенны злачынца Саванюк мусіць правесці ў турме. Нагадаем, што ў красавіку найстарэйшы брытанскі суд Олд Бэйлі асудзіў да пажыццёвага зняволення 78-гадовага Энтані (Андрэя) Саванюка за расстрэлы габрэяў у Беларусі ў 1942 годзе.

Але цяпер прысуд мусіць быць пацверджаны міністрам унутраных справаў Вялікабрытаніі Джэкам Стро. Ад міністра чакаюць прынцыповага рашэння: ці мусіць памерці Саванюк у турме, праз колькі б гадоў гэта ні было, ці дастатковым будзе прысуд у колькі-небудзь гадоў – каб у яго засталося б нейкае самае маленькае спадзяванне ўсё ж выйсці калі-небудзь на волю.

Суддзя Потс, які вёў працэс, адназначна перакананы, што такі злачынца, як Саванюк, варты толькі пажыццёвага зняволення. На ягоную думку, вызваленне Саванюка супярэчыла б самому духу Акта аб ваенных злачынствах, на падставе якога той быў асуджаны. Таксама вызваленне дыскрэдытавала б самую справу выяўлення і асуджэння ваенных злачынцаў.

А вось міністр юстыцыі лорд Бінгэм мяркуе, што які б ні быў злачынца, але трэба даць яму хоць нейкую надзею на вызваленне. Ён нагадаў, што прысуд выносіцца амаль праз 60 гадоў чалавеку, якому ўжо амаль 80, і таму трэба быць больш міласэрнымі да яго.

Такім чынам, існуюць два супрацьлеглыя пункты гледжання на праблему. Цяпер выбар – за брытанскім міністрам унутраных справаў. ■

## ТБМ пікетуе

Аляксей ШМЯЛЁЎ

Сёння ў Мінску ў Міхайлаўскім скверы, які знаходзіцца паблізу чыгуначнага вакзала на скрыжаванні вуліцаў Кірава і Свярдлова, з 17 да 19 гадзінаў пройдзе арганізаваны Таварыствам беларускай мовы пікет.

Асноўныя патрабаванні пікетоўшчыкаў – захаванне назвы праспекта імя Францыска Скарыны, стварэнне беларускамоўнага універсітэта і захаванне беларускіх класаў у сярэдніх школах №115 і 180, якім пагражае расфармаванне. ■

СПОРТ

## Мінус адзін

Аляксей ШЫДЛОЎСКІ

Першы беларускі футбольны клуб сышоў з дыстанцыі еўракубкавых спаборніцтваў. Гэта віцебскі «Лакаматыў-96», які ў паўторным матчы з харвацкім «Вартэксам» згуляў унічыю. Першы матч віцябляне прайгралі, і ў другі круг прайшоў «Вартэкс».

Затое парадаваў «Гомель», які пасля крыўднай паразы 0:1 тыдзень таму ў Чэхіі мясцоваму «Градзец-Кралаве» на мінскім стадыёне «Дынама» здолеў з лікам 1:0 перайграць саперніка. У серыі пасляматчавых пенальці, якія ўсё і вырашылі, героем стаў варатар гомельцаў Селькін, які здолеў адбіць тры ўдары і здабыць перамогу з лікам 3:1. «Гомель» прайшоў у другі круг спаборніцтваў. ■

## «Наша Ніва»

У чарговым нумары газета вышпраўляецца ў два падарожжы: па Гарадоччыне (паўночны ўсход Беларусі – гэта раён з найбольшай у Эўропе шчыльнасцю лясоў і амаль бязлюдны) і па мінскіх тэатрах.

Адкрываецца нумар артыкулам Сяргея Паўлоўскага «Пятрушка», прысвечаным вынікам пяцігадовага праўлення А.Лукашэнкі. Аўтар лічыць, што беларускі прэзідэнт быў толькі статыстам у гульні, за шырмай якой стаіць сям'я Ельцына. Рэдакцыйны агляд і інтэрв'ю з Адамам Глёбусам прысвечаныя інтрыгуючай загадцы – уцёкам Уладзімера Някляева. ■

# Приданое вице-президента

## Беларусь глазами российских журналистов

**Елена ГАМАЮН, «Московский комсомолец»**

**Государства рождаются, живут, развиваются и гибнут. Вместо них появляются новые. Практика создания новых государств в одночасье была опробована в начале этого века на территории Советского Союза. В конце века к этой идее решили вернуться. В какой-то день июля мы можем проснуться в едином Союзе Белоруссии и России.**

С Белоруссией мы сближаемся с 1996 года, но все как-то не конкретно. Вроде Союз есть, а приглядишься — нет ничего. Стоит ли ждать прорыва? Есть одна особенность: на этот раз предлагается пост единого президента. Который, скорей всего, уйдет под Ельцина. Пока Борис Николаевич имел пост российского главы, он мог использовать идею интеграции только в политических целях. Теперь — или пан, или пропал. Потому и Союз предлагается конкретный — единое государство. А пока мы решили поближе познакомиться с нашей потенциальной половиной, которая, по уверению сторонников интеграции, живет лучше нашего.

У Минска и Москвы много общего. Метро, например, самый надежный и массовый вид транспорта. Только у нас проезд стоит 4 тысячи, а в Минске в пересчете на рубли — 4 копейки. Еще и у них, и у нас есть обменные пункты валюты. Только у нас они существуют для того, чтобы поменять свою зарплату на доллары или наоборот. А в Минске для того, чтобы посмотреть официальный курс и привлечь внимание нелегальных торговцев, которые уже и обменяют ваши деньги по реальному «черному» курсу, приблизительно в два раза превышающему государственный.

Особенность белорусской действительности — цены на свои и импортные товары отличаются в разы. И не в два раза, как у нас, а в пять-шесть, а то и в десять. «Это потому, что Беларусь в блокаде. Прямой импорт у нее очень ограничен. Все закупки через сопредельные страны. Отсюда и накрутка...» — объясняли мне. Да, с непривычки ценовая катавасия в минских магазинах может вызвать шок. Когда я увидела, что обыкновенная селедка и скумбрия зашкаливает за миллион (95 российских рублей!), я поняла, что страна живет непросто. Когда говорят, что в Беларуси дешевые товары, то имеют в виду картофель, хлеб, творог, сметану (которую из-за дефицита стали разбавлять до 10-15 процентов жирности), молоко, сыр, яйца. То есть те товары, за которыми при появлении их в магазине выстраивается очередь. Все прочие цены в Минске рублей на пять-десять превышают московские.

В Минске много молодежи. На улицах и в метро сплошь юные лица. Передовой отряд лукашенковской молодежи — Белорусский патриотический союз, по словам его руководителей, насчитывает сегодня в своих рядах 170 тысяч человек. В этом году БПСМ выставил на выборы в местные советы своих кандидатов. 80 процентов прошло... Выборы, правда, были безальтернативные. Правильно, передовой отряд молодежи плавно перетекает в номенклатурные кресла. Так было тогда, когда все играли в «Зарницу». Так в Белоруссии и сегодня.

К объединению с Россией у минской молодежи отношение неоднозначное. «Объединяться надо с тем, кто может тебе помочь, — внушал мне старшекурсник-экономист. — Может от экономического сотрудничества с Россией мы что-то и получим, но политически это выгодно только определенным кругам». «Нам бы лучше с Польшей объединиться, с Западом, в общем, — рассуждала девушка-менеджер. — Самим надо развиваться. Чего двум калекам друг друга валить». Одно очевидно — у белорусской молодежи свои ценности. Полные залы собирают местные группы NRM и «Нейро-Дюбель», поющие на белорусском языке. А вот местный фетиш «Ляпис Трубецкой» уже не моден — в Москву переметнулся.

Из 2.500 колхозов Белоруссии сегодня лишь 57 по существу рентабельны. Белорусский колхозник сегодня получает в среднем 5 долларов в месяц. Можно больше — долларов десять, если выплатят стопроцентную премию из прибыли колхоза. Только где ее взять — прибыль. «Я приехала, чтобы вы рассказали нам о достижениях колхозного строительства», — огорошила я председателя одного белорусского колхоза. Председатель выглядел измотанным, и пока я не перебила его своим оптимистическим вступлением, рассказывал двум дамам из правления, что «из-за этих идиотов» его когда-нибудь посадят. «Ну, пойдемте, расскажу вам, как мы... выживаем», — сказал председатель. Выживают, надо сказать, с трудом. Государство, которое взяло на себя опеку над колхозами, для начала загнало их в тиски. Никакой самодеятельности. Пахать только тогда, когда скажут, сеять только то, что укажут, продукцию сдавать государственным закупочным структурам. Животноводство при таком раскладе становится совершенно убыточным. Буквально накануне я видела по Белорусскому телевидению репортаж о суде над человеком, который решил, что сам может хозяйствовать на селе. Известный председатель колхоза Старовойтов был арестован за то, что умудрился сделать свое акционерное общество прибыльным. Седой человек, дважды Герой Социалистического Труда, сидел за решеткой и, стараясь держать голову прямо, выслушивал приговор. Судья, зачитывавшая дело, не выдержала напряжения, стала задыхаться и передала папку своей коллеге... Больше в Беларуси нет акционерных обществ. Есть «неделя массовых сельскохозяйственных работ», объявленная минсельхозом, когда все колхозники должны дружно выйти на поля. В этом году этот широкообъявленный «выход» привел к тому, что поля были засеяны в неподходящих погодных условиях. Грянули заморозки, посевы померзли. Банкам дали приказание выделить денег на новую посевную. Именно так: «дали приказание», ибо вся экономика Белоруссии крутится по приказу. Ту модель экономики, которую построил Лукашенко, называют «семейной». Есть заводы, колхозы, больницы, институты... и печатный станок. Есть «батька» президент, который распределяет продукцию печатного станка исходя из собственных пристрастий. Заводам, колхозам, культуре надо помогать — банкам идет указание «помочь». Коммерсантам помогать не надо, они и так живучие, с них надо брать, сколько можно. Вот такая «мафия» (моя семья), где все обеспечены куском хлеба. Жизнь за счет инфляции... Ничего нового в этом нет, так жил Советский Союз многие годы. Пока не рухнул...




Наши власти, судя по всему, интегрироваться не прочь. Новый, еще более тесный союз предусматривает создание наднациональных структур: общего парламента, избираемого гражданами обоих государств, общего исполкома, ведающего делами Союза и, возможно, выборы союзного президента. Белорусы предлагают этот пост ввести. Александр Григорьевич вполне справедливо полагает, что, посулив эту конфетку Борису Николаевичу, можно протолкнуть идею единого государства вообще... И чем ближе срок президентских выборов в России, тем больше шансов, что белорусские коллеги смогут убедить наших в своей правоте. В этом случае у нас грядет сначала референдум об объединении, а потом выборы общего парламента и единого президента. Впрочем, для пущей верности президента может выбрать сам парламент. Вот только одно «но»: белорусская сторона настаивает, что должен быть еще пост вице-президента, который наверняка займет Александр Григорьевич. Он же — вице — должен будет руководить правительством Союза. В противном случае белорусы не хотят никакого президента вообще. «Нет уж, для одного человека — это ответственность неподъемная. Пусть тогда лучше руководит Высший Совет, чем ваш Ельцин», — сказали мне в общественном движении «За Союз Белоруссии и России». «Простите, а если Лукашенко будет руководить союзным правительством, не начнет ли он распространять на нашу экономику свои убеждения?» — «А экономика должна быть управляемой сверху», — сказали мне безапелляционно. Наши, говоря об общей валюте, имеют в виду безналичный рубль, который как раз и должен урегулировать возникшие проблемы с взаиморасчетами.

Белорусские интеграторы видят общий рубль полноценным аналогом советского. Наши уверяют, что Россия как выбирала, так и будет выбирать пути своего экономического развития. Белорусские коллеги уверены, что их модель экономики самая верная, потому что социально направлена. А значит, и Союзу по ней жить. «Вы понимаете, у нас многие предприятия находятся даже не в федеральной, а в региональной собственности. У нас губернаторы очень хотят развивать собственное производство. Но за счет разумных ставок кредитов, обуздания естественных монополистов и разумных налогов. Им нужна помощь государства, а не диктат. Вряд ли они согласятся, чтобы какое-то союзное правительство диктовало им план и заведовало их деньгами», — убеждала я сторонников интеграции по-белорусски. «Да ваши сенаторы знаете кто?! Потому вы так плохо и живете. На то и есть государство с законами, чтобы вернуть себе собственность!» — ответили мне.

Конечно, белорусские «союзные» активисты так же, как и наши «левые», ностальгируют по ушедшему Союзу, не понимая, что вторично войти в ту же реку невозможно. Большинство белорусов, ратующих сегодня за сближение с Россией, имеют в виду совсем иной Союз — равноправный, экономически выгодный, без потери суверенитета. ■

**ДЫЯГНАЗ**

## СюрЫкономика



**Александр ПОТУПА**

*Экономика* в буквальном переводе с греческого — *домоводство*. Но это у них — дом, у нас хватит землянки под «крышей», руководящей и гыкающей в сугубо государственных интересах. *Сюр* — французская приставка, означающая *сверх*. То, что некогда рисовал великий Сальвадор Дали, называлось сюрреализм. То, что рисует наше начальство, — несомненно, сверхэкономика, но с наследственным генсековским пригыкиванием. Только где взять раму для этого шедевра?

На гербе образца 1996 года Беларусь как бы испарилась с земного шара — такой летающий космический блин. И вот над бедной беглянкой потянулись, *маша ушами*, все уплотняющиеся стаи свежеснятых начальственных и предпринимательских голов. Одновременно обильно удобряя родную землю осыпающейся с оных ушей лапшой, так сказать, пятилетним стратегическим запасом лапши. Которая от многократного превышения срока хранения обрела такой специфический желто-коричневый (не путать с красно-коричневым!) оттенок. Что придает необычайную привлекательность всему пейзажу и нежно подсвечивает лики народа, погруженного в упомянутую лапшу уже по уши.

И тут появляется Он Во Всем Белом и всем дает прикурить. Есть чем — на складах Гродненской табачной фабрики скопилось родных сигарет примерно на 8 миллионов долларов (по официальному курсу). Зря, между прочим, стоило бы срочно продать этот запас Милошевичу в качестве *боевых отравляющих веществ* — от NATO вмиг остались бы рожки Моники да ножки Буша.

И еще странно, что алкогольные напитки проливаются тропическим ливнем, но сильно мимо казны. Потому как всеобщая белорусская табачно-алкогольная «крыша» маячит всегда за спиной, и Ему Во Всем Белом, разумеется, не видна. Хотя и сзади имеется недремлющее силовое око — по законам *сюра*.

Чертовщина этот *сюр* — взялся за яйца, куда-то делась колбаса, дотянулся до колбасы, исчез бензин. И дождь тоже исчез. Опять масоны съели будущий урожай.

А по полям (тоже по уши в лапше) бродит подлинный шедевр *сюрЫкономики* — Армия Освобождения С Косами. Не путайте только с АОК (Армией Освобождения Косово — те уже с калашниковыми). Первая работает на прокорм скота, вторая — только на собственную кормежку.

И над всем грохочет музыка в стиле *сюр* — смесь классического реквиема с известным шлягером Валерия Меладзе. Помните: «Танцы белого мотылька у открытого огонька...»? Это про ушастые головы. Открытый в единстве и борьбе трех номенклатурно-телоохранительных групп, закон точен — не хуже того, который имени Ньютона. Пинок, полученный лицом (физическим, юридическим, химическим — все равно!), имевшим неосторожность приблизиться к Нему Во Всем Белом, по силе обратно пропорционален квадрату расстояния. Все по науке — квадрату, поскольку приготовленная камера трехмерна. И уж точно в стиле *сюр* — все более сверхреальна и общедоступна... ■

# Узлётная паласа

**Людміла ГРАЗНОВА,**

**дэпутат Вярхоўнага Савета, член аргкамітэта Хартыі'97**

Часам ад апазіцыйных палітыкаў здараецца пачуць, што яны належаць да элітарнай партыі, і іх задача — распрацоўваць тэарэтычныя канцэпцыі. Безумоўна, арэол выбранасці дапамагае самавыражэнню. Але велічнасць добрая для святароў ля алтара ці для вяльможы ў прэзідэнцкім акружэнні. Калі няма ні царквы, ні палаца, ні паслухмяных паствы ці зачараваных тэлегледачоў, даводзіцца змагацца за месца пад палітычным сонцам іншым чынам. Так, некалькі гадоў таму мы мелі магчымасць выступаць з трыбуны Вярхоўнага Савета, калі-нікалі з'яўляцца на Беларускім тэлебачанні, часцяком даваць інтэрв'ю айчынным радыёпраграмам. Цяпер не да велічных жэстаў на трыбуне і фразаў тыпу «Калі не я, то хто?»

Беларуская палітычная сітуацыя, зварот да жорсткіх адміністрацыйных мераў сталінскага ўзору прымушаюць апазіцыю выкарыстоўваць адпаведныя метады работы. Загнаная ў напаўпадпольнае існаванне думка, адрозная ад уладнай, вымушаная прабівацца да людзей праз радыёстанцыю «Свабода» і некалькі незалежных газетаў. Няма тэлебачання — гэтага галоўнага дойліда чалавечых душаў. Няма ніводнага масавага інфармацыйнага канала, дзе апазіцыйныя палітыкі маглі б падтрымліваць сувязь з грамадзянамі. Што рабіць, куды ісці? Застаецца адно — на вуліцу, куды ўлады выштурхнулі іншадумцаў.

Няма іншых магчымасцяў, акрамя непасрэдных зносінаў апазіцыйных палітыкаў з грамадзянамі на масавых вулічных акцыях. Чамусьці некаторыя лічаць, што такія зносіны дапушчальныя толькі ў перыяд выбарчых кампаніяў. Не ўлічваюцца велізарныя магчымасці прапаганды, якія адкрываюцца на вулічных пікетах. На іх любы палітык ад апазіцыі можа звярнуцца да людзей. Канешне, не будзе трыбунаў і тэлекамераў, але затое будзе ўвага, зацікаўленыя вочы прахожых.

Праца ў пікетах не ўсыпаная ружамі. Няшчасная бабуля, якая наслухалася стогнаў беларускага радыё і зляпіла вобраз ворага ў асобе Міхаіла Чыгіра, накідваецца на пікетчыкаў, што абараняюць экс-прэм'ера — яшчэ аднаго ў шэрагу беларускіх палітычных зняволеных. Размова з такой бабуляй магчымая. Можна спытаць яе пра пенсію зараз і год таму альбо пацікавіцца, ад каго залежыць памер пенсіі — ад уладаў ці ад апазіцыі? Цяжка размаўляць з «падрыхтаванымі байцамі» — асведамляльнікамі КДБ або «патрыятычнымі актывістамі» рэжыму. Першыя не любяць публічнасці і пазбягаюць шумных звадак. Іхняя справа — закінуць у натоўп хлусню тыпу «Калі не Лукашэнка, то хто?», «Ён не вінаваты, яму перашкаджаюць», «Вы стаіце ў пікеце таму, што вам плацяць долары». Ура-патрыёты, пераймальнікі вядомага дзеяча, любяць шум, дыскусію на павышаных танах і бойку, грубыя выразы з выкарыстаннем ненарматыўнай лексікі, пляўкі ў твар апаненту, агаленні мяккага месца і да т.п. Як рэагаваць? Спакойна, з глыбокім спачуваннем да замбіраваных, пазбаўленых розуму людзей.

Надышоў час карпатлівай, руціннай працы. Калі няма магчымасці дайсці да многіх людзей праз тэлебачанне, радыё і газеты, трэба пераходзіць да асабістых зносінаў. Патрэбныя не вузкія семінары і канферэнцыі, дзе заўжды адна і тая ж тусоўка, а вулічныя акцыі са зменлівай плынню новых твараў.

Хутчэй за ўсё, у адроджанай незалежнай Беларусі месца кожнага сённяшняга апазіцыянера будзе ацэньвацца па ўдзеле ў вулічных акцыях, як сёння ў Польшчы, дзе на вядучых дзяржаўных пасадах працуюць тыя, хто калісьці карпатліва ствараў падполле «Салідарнасці». Толькі маральны аўтарытэт, набыты ў масавай апазіцыйнай дзейнасці, можа паслужыць вядомасці палітыка ў будучыні. Вуліца — яго ўзлётная паласа. ■

**КАМЕНТАР навінаў**

Парады Людмілы Грازновай элітным палітыкам маюць пэўны сэнс пры адной умове: калі палітыку ёсць што канкрэтна паведаць людзям пра эканамічную і сацыяльную праграму сваёй партыі ці руху. Сёння агульныя словы пра перавагу дэмакратыі над парта- ці аўтакратыяй нікога з прахожых не затрымаюць каля пікета болей за хвіліну. А вось якраз з пазітыўным зместам партыйных праграмаў пераменаў пасля сыходу дзеючага прэзідэнта з палітычнай арэны вядомыя апазіцыянеры звяртаюцца да прахожых і чытачоў газетаў надта рэдка. Часам складаецца ўражанне, што яны самі добра не ведаюць, што трэба рабіць для паляпшэння становішча народа. Бальшыня лістоў, якія атрымоўвае рэдакцыя, змяшчаюць чытацкія жаданні займець грунтоўны адказ адносна неабходных рэформаў у эканоміцы і ў сацыяльнай палітыцы. Паказальна, што і аўтар гэтага артыкула застаецца ў межах агульных развагаў, не дзелячыся ўласным вопытам кантактавання ў пікетах з прахожымі. ■

КНІГАРНЯ

## Персаналіі дысідэнтаў

Альгерд НЕВЯРОЎСКІ

Беларускі архіў найноўшай гісторыі разам з польскім цэнтрам «Карта» выдаў даведнік пад назваю «Дэмакратычная апазіцыя Беларусі. 1956-1991». Гэта ўжо другая кніга аб антыталітарнай апазіцыі ў пасляваеннай Беларусі, выпушчаная ў рамках гэтага міжнароднага праекта.




Як кажа складальнік зборніка гісторык Алег Дзярновіч, ён разам з калегамі імкнуўся паказаць не толькі сам дысідэнцкі рух у нашай краіне (якога ў агульнапрынятым сэнсе гэтага слова ў Беларусі ў 1960-я і 1970-я гады фактычна не было. — *А.Н.*), колькі жыццё незалежнага беларускага грамадства таго перыяду.

Зборнік мае падзагаловак «Персанажы і кантэкст». Такім чынам, аўтары хацелі пазнаёміць чытача з асобамі, якія ў той ці іншай ступені супрацьстаялі камуністычнай сістэме, і падаць кароткі спіс арганізацыяў і непадцэнзурных выданняў, якія ў асноўным пачалі з'яўляцца ў апошнія гады існавання СССР. На думку аўтараў кнігі, перыяд беларускай гісторыі пасля 1956 года цікавы тым, што менавіта гэты год можна лічыць канцом эпохі сталінізму. Шасцідзесятыя і сямідзесятыя гады — гэта час неструктураванай інтэлектуальнай пасіўнай апазіцыі асобных людзей ці дробных сяброўскіх групаў савецкаму рэжыму. І гэтым беларуская сітуацыя якасна розніцца ад украінскай, расійскай і прыбалтыйскай, дзе негвалтоўны супраціў камунізму набыў у той час арганізаваныя формы. Беларусь проста была настолькі змардаваная папярэднімі сталінскімі рэпрэсіямі супраць інтэлігенцыі, што грамадства было не ў стане стварыць у перыяд хрушчоўскага і брэжнеўскага кіравання арганізаваныя структуры супраціву, лічаць аўтары кнігі. Па словах Алега Дзярновіча, у зборніку было вырашана паказаць усе плыні і накірункі тагачаснага беларускага незалежнага грамадства ад нацыянал-дэмакратаў да прадстаўнікоў маладзёжнай субкультуры.

У кнізе часам трапляюцца і цікавыя знаходкі кшталту інфармацыі пра лёс праваслаўнага святара айца Уладзіміра Русака, якога за яго казанні пра пакутнікаў за веру ў СССР мінскі мітрапаліт Філарэт пазбавіў у 1986 годзе права служыць, а неўзабаве бацюшку асудзілі на 7 гадоў лагераў па вядомым артыкуле «за антысавецкую агітацыю і прапаганду». Даведнік не пазбаўлены і некаторых хібаў. Гэта найперш тычыцца далёка няпоўнага спісу персаналіяў дысідэнтаў (у яго, напрыклад, не трапілі Васіль Быкаў і Алесь Адамовіч). Бясспрэчна, даведнік «Дэмакратычная апазіцыя Беларусі. 1956-1991» зойме пэўнае месца ў гісторыяграфіі беларускага паваеннага дысідэнцтва. ■

# Адбіткі дзён

Таццяна НОВІКАВА, фота Юрыя ІВАНОВА



**17 чэрвеня споўнілася 60 гадоў фотамастаку Юрыю Іванову. У мінскім Палацы мастацтва адкрытая ягоная юбілейная фотавыстава «Трэць XX стагоддзя», дзе прадстаўленыя каля 500 вядомых ягоных работаў. Юрый Іваноў — аўтар шырокавядомых фотапартрэтаў пісьменнікаў, драматургаў, палітыкаў. Сярод іх — Крапіва, Макаёнак, Машэраў, Прытыцкі, Брэжнеў, Гарбачоў, Лукашэнка... Іваноў быў адзіным фотарэпарцёрам, якому ўдалося трапіць на гістарычную сустрэчу ў Віскулях, якой азнаменаваны развал Савецкага Саюза. Юрый Іваноў працуе фотакарэспандэнтам расійскага інфармацыйнага агенцтва «Новости» ў Рэспубліцы Беларусь.**

***— Чаму Вашая фотавыстава называецца «Трэць XX стагоддзя?»***

— Гэта не падвядзенне вынікаў, гэта выстава работаў, выкананых за апошнія 35 гадоў. У 1962 годзе я пачаў працаваць фотарэпарцёрам у газеце «Знамя юности», у 1965 мяне запрасілі ў агенцтва друку «Новости». З таго часу я зрабіў шмат візуальнага матэрыялу, які захацелася сістэматызаваць і прадставіць, быццам бы зрабіць справаздачу перад самім сабой. З аднаго боку — гэта мая рэпарцёрская праца, з другога — тое, што адбывалася за 35 гадоў у грамадстве. Экспазіцыя складаецца з шасці раздзелаў: «зямля», «людзі», «гісторыя», «памяць вайны», «сучаснасць» і «замежжа». «Гісторыя» і «сучаснасць» падзяляюцца «перабудовай». Я спецыяльна не падпісваў работы. Мне хацелася, каб экспазіцыю ўспрымалі як цэлае.

***— Хто падтрымліваў Вашую выставу?***

— Я змог арганізаваць яе дзякуючы мастаку Анатолю Зайцаву, мы працуем разам больш за 10 гадоў. Выставу спансіравалі прыватныя асобы. Планшэты і фатаграфіі зрабіла фірма «Рыколтэ». Дзяржава не захацела ўдзельнічаць у праекце. Гэты факт дэманструе яе адносіны да творчасці ўвогуле. Так, мінскія ўлады ўхвалілі выставу. Яе адкрыў мэр горада Уладзімір Ярмошын. Але калі мы рыхтавалі праект выставы, ім зацікавіўся Гомельскі аблвыканкам (чарнобыльская тэма). Старшыня аблвыканкама Вайцахоўскі запрасіў нас у Гомель, каб абмеркаваць праект. Мы прапанавалі ім аплаціць толькі трэцюю частку выдаткаў. Нам паабяцалі адказаць праз тры дні. За некалькі дзён да выставы, калі мы ўжо зрабілі планшэты, нам патэлефанавалі з аблвыканкама і паведамілі: «Прабачце, не зможам вам дапамагчы». Мяне такія паводзіны бянтэжаць. Здаецца, людзі прызвычаіліся казаць адно, рабіць другое, а думаць іншае. Гэта стэрэатып паводзінаў партыйнага работніка савецкіх часоў.

***— Над чым Вы працуеце сёння?***

— У мяне ёсць некалькі буйных праектаў. Адзін з іх — лёс двух закаханых сэрцаў, якія злучыла жыццё і разлучыла вайна.

***— Як Вы ацэньваеце стаўленне людзей да сваёй творчасці?***

— Часам я чую выдатныя водгукі незнаёмых людзей, яны нават просяць, каб я выдаваў свае работы. Часам я адчуваю, што больш патрэбны ў Германіі, Італіі, Японіі са сваімі выставамі пра Беларусь і яе праблемы, чым тут. Дарэчы, там серыі работаў на чарнобыльскую тэму выстаўляліся ў самых лепшых залах, напрыклад, у прэстыжным Музеі сучаснага мастацтва ў Оксфардзе.

***— Якое месца ў Вашай працы займаюць вострыя, праблемныя тэмы?***

— Нядаўна адбылася трагедыя на Нямізе. Я не разумею, чаму мяне не пускалі рабіць рэпартаж пра гэтую трагедыю. Мне давялося браць дазвол гарвыканкама, каб патрапіць у клініку, дзе ляжалі пацярпелыя. Я атрымаў дазвол і зрабіў здымкі. Свой ганарар за гэтую работу я пералічыў хлопчыку, які пацярпеў у падземным пераходзе, Аляксею Нікалаеву — ён сірата. Зараз ён знаходзіцца ў НДІ траўматалогіі, у яго здаўленая грудная клетка. За выключэннем рэпартажу аб мінскай трагедыі, я зараз амаль не раблю праблемных матэрыялаў. Але я лічу, што няма фатаграфіі дзеля фатаграфіі. Заўсёды важны чалавечы маштаб. Для мяне гэта не толькі сацыяльны напрамак. Я не люблю палохаць людзей, мне хацелася б, каб фатаграфія дарыла чалавеку ўпэўненасць у заўтрашнім дні, давала яму адчуванне дабрыні. Яна робіцца для чалавека. Але чалавек ёсць і з другога боку — гэта аўтар. Калі я раблю здымак, то дэманструю свой погляд на з'явы. Апроч гэтага, фатаграфіі атрымліваюцца менавіта такімі, таму што людзі так глядзяць на мяне, на іншых яны глядзяць інакш.

***— Вы лічыце сябе беларускім фотамастаком?***

— Я не лічу сябе мастаком, я фатограф. Мне было 17 гадоў, калі я прыехаў у Мінск. Ён быў яшчэ напаўразбураны. І дагэтуль я адчуваю адказнасць за тое, каб пакінуць горад у памяці людзей. Я працую ў расійскім інфармацыйным агенцтве, але паказваю Беларусь. Я фатаграфаваў і Амерыку, і Італію, і Лаос. На выставе ёсць мае берлінскія работы. Але я не грамадзянін свету, я проста свабодны чалавек.

***— Вы рэаліст у фатаграфіі?***

— Фатаграфія сама па сабе рэальная, і я не раблю спецэфектаў, хоць гэта магчыма ўжо нават пры дапамозе камп'ютэра. Але я паказваю сваё бачанне свету.

***— Каго з вядомых людзей Вам даводзілася фатаграфаваць? Якія з гэтых работаў Вы лічыце найбольш удалымі?***

— Усе работы для мяне аднолькава дарагія. Калі казаць пра вядомых людзей, дык мне запомнілася сустрэча з Кандратам Крапівой. Ён быў цікавейшы, добры чалавек, жыццялюб. Я яго фатаграфаваў ужо добра вядомым, і мне хацелася пазбегнуць хрэстаматыйнасці. Крапіва тады напісаў п'есу «Брама неўміручасці», а прэзідэнт АН Беларусі В.Купрэвіч у той час пісаў працы аб бессмяротнасці. Якраз пасля прэм'еры я запытаўся ў Крапівы, ці не пра Купрэвіча яго п'еса? Ён хітра на мяне паглядзеў і адказаў: «Можа быць, можа быць». Тады я і зрабіў свой здымак.

Калі казаць пра апошнія работы, то я ўспамінаю Генадзя Карпенку. Ён папрасіў мяне зрабіць партрэт, калі быў яшчэ кандыдатам у дэпутаты. Я не адразу знайшоў патрэбны ракурс. Атрымаўся такі здымак, з якім ён пайшоў на выбары і стаў дэпутатам. Калі яго хавалі, гэты здымак неслі за труною. Я фатаграфаваў першых асобаў дзяржавы. Канешне, мне было цікава працаваць з Сурганавым, Машэравым, Кісялёвым, Прытыцкім, Макаёнкам...

***— Улады ацэньваюць вашыя заслугі?***

— Добра, калі ўлада цябе аберагае. Але ўлада прыходзіць і сыходзіць, а фатографы, мастакі застаюцца. Як сказаў Маркс: мастак мае патрэбу ў пяшчоце. Але ў мяне іншая формула: не трэба мяне лашчыць і дапамагаць, не перашкаджайце!

***— Ці падлягалі вашыя работы цэнзуры? Ці былі такія фотаздымкі, ракурсы, якія не падабаліся, асабліва калі кліентамі былі першыя асобы дзяржавы?***

— У савецкія часы так, гэта заўсёды была ваенная цэнзура. Я спрачаўся з цэнзарамі. Зараз цэнзуры няма — свабода. На маю выставу ніхто не прыйшоў і не сказаў, што такія і такія здымкі выстаўляць нельга. Улады пасля перабудовы мне не перашкаджалі. Можа, таму, што я ўжо немалады. Магчыма, таму я вельмі хачу, каб людзі пабачылі выставу і зразумелі значнасць фатаграфіі. Мне хочацца, каб добрая фатаграфія сустракалася людзям усюды: па тэлебачанні, у газетах, альбомах, на выставах. ■

**Запіс у кнізе водгукаў:**

***«Ведаеце, быццам бы пагуляў па Берліне, патусаваўся з панкамі, паеў з імі, паслухаў музыку. І побач — наш сатанінскі рэжым, служэнне Леніну. Людзі — лялькі, і ўсё нейкае нежывое, быццам час стаіць на месцы (як замагільнае жыццё ў пірамідзе Хеопса). «Каты масляныя, і дзяўчына, што пераходзіць дарогу, і мядзведзь у краме...»***





© НАВІНЫ. Спасылка на газету НАВІНЫ абавязковая. Рэдакцыя можа не падзяляць меркаванні аўтараў, публікаваць артыкулы дзеля палемікі Адрас: г.Мінск, пр-т газеты «Известия», 8-173. Пасведчанне аб рэгістрацыі № 996
Выдаецца з 16 студзеня 1998 г. В.а. галоўнага рэдактара і заснавальнік Павел Жук. Выдавец — рэдакцыя газеты НАВІНЫ. Адрас для карэспандэнцыі: 220034, г. Мінск, вул. З.Бядулі, 6-47. Тэл./факс: 236-89-40.
E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by Надрукавана на паліграфічнай фабрыцы «Чырвоная зорка» (г.Мінск, 1-шы Загарадны завулак, 3) Заказ 564 Нумар падпісаны ў друк 28/06/99 (15:00) Наклад — 17.380